ЖУРНАЛІСТАЎ БЕЛАРУСКАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ

*"Не понимая необходимости безграничной свободы печати, ничего понять нельзя".*
**Федор Достоевский.**

# ... НЕ ВЫРУБИШЬ ТОПОРОМ

*"...официальной информацией в наших условиях является то, что, используя кисельный рупор и ядреный фильтр, сами о себе думают и рассказывают людям Лукашенко и Ко".*

**Дмитрий Булахов,**
**"Белорусская деловая газета", 4.10.96.**

*"...мы просто считаем расточительным занимать эфирное время парламентским пустословием. Мы делаем так, как делают во всех соседних странах. Но там за это руководителей ТРК к судебной ответственности не привлекают".*

**Григорий Кисель,**
**газета "Имя", 4.10.96.**

*"...за деньги соросов и других у нас и так хватает пакостей на государственном телевидении и радио".*

**Из выступления А.Лукашенко**
**на молодежном форуме, 20.09.96.**

*"...почти готов закон о поддержке СМИ. Сам по себе проект этот дорогостоящий, но Президент поддерживает его, а значит, поддерживает прессу. Для того, чтобы пресса была свободной, ей нужна экономическая независимость".*

**Владимир Бельский,**
**"Советская Белоруссия", 9.11.96.**

*"Манаполія ўлады на друкарні — гэта не проста антызаконнасць, гэта — інквізіцыя слова, інквізіцыя духу народа, нагараджанне правамі людзей".*

**Іосіф Сярэдзіч,**
**"Народная воля", N 1 за 1997 г.**

*"У нас — свобода печати, свобода слова, инакомыслие не подвергаются преследованиям, а газета "Свабода", например, деятельность которой лежит, по моему мнению, вне жанра цивилизованной журналистики, тем не менее, свободно продается в книжном киоске резиденции Президента".*

**Александр Лукашенко,**
**"Советская Белоруссия", 6.02.97.**

*"Когда я пришел на должность, то обещал, что всем СМИ будут предоставлены равные возможности, и полагаю, что, по большому счету, от своего слова не отступил. Силой не закрыта ни одна газета, не подвергся гонениям ни один журналист. Я очень доволен тем, что у нас, в отличие от Москвы, журналистов не взрывают и не бьют. Более того, я всегда буду защищать людей этой уважаемой профессии".*

**Александр Лукашенко,**
**"Советская Белоруссия", 8.02.1997.**

## ЗАЯВА
### БЕЛАРУСКАЙ АСАЦЫЯЦЫІ ЖУРНАЛІСТАЎ

**Увечары 10-га лютага г.г. быў зроблены стрэл з пісталета па доме галоўнага рэдактара газеты "Свабода" Ігара Герменчука. Куля разбіла шкло ў вакне, ля якога журналіст звычайна працаваў. На шчасце, у гэты момант у пакоі нікога не было.**

**У той жа вечар і амаль у тую ж гадзіну невядомыя асобы жорстка збілі дэпутата Вярхоўнага Савету XIII-га склікання Анатоля Лябедзьку. Напад адбыўся каля яго кватэры.**

**Гэтыя два эпізоды — не першыя ў ланцугу акцыяў запалохвання ў адносінах да вядомых палітыкаў і журналістаў Беларусі. Летась гвалтоўнаму нападу падверглася ва ўласнай кватэры жонка журналіста Юрыя Дракахруста. Міліцыя злачынцаў не знайшла. У другім эпізодзе міліцыя арганізавала пагоню па вуліцах Мінска і у ходзе яе была абстраляная службовая машына дэпутата Вярхоўнага Савету Віктара Ганчара, які ў той час працаваў генеральным сакратаром Эканамічнага суда СНД. У выніку пацярпела супрацоўніца гэтай міжнароднай установы. Уся адказнасць была ўскладзена на шараговага супрацоўніка МУС.**

**Не можа не насцярожваць супадзенне ў часе ўзброенай правакацыі супраць рэдактара "Свабоды" і бандыцкай акцыі супраць дэпутата парламенту. Анатоль Лябедзька вядомы не толькі як актыўны палітык, але і як аўтар многіх артыкулаў. На старонках газет "Свободные новости плюс", "Народная воля", "Свабода" ён выступаў з крытыкай існуючага рэжыму, выкрываў карупцыю ў вышэйшых эшалонах улады.**

**Згаданыя злачынствы, у якіх выразна адсочваецца почырк прафесійных правакатараў, скіраваны не толькі супраць канкрэтных асобаў, але й супраць правоў асобы, супраць свабоды слова і права на ўласнае меркаванне.**

**Гэта нельга кваліфікаваць інакш, як выклік усяму грамадству. Журналісты не павінны дапусціць замоўчвання падобных агідных фактаў. Інфармацыя аб іх павінна быць вядомая ўсім.**

*11 лютага 1997 г.* **Праўленне БАЖ**

## ЗАЯВЛЕНИЕ
### БЕЛОРУССКОЙ АССОЦИАЦИИ ЖУРНАЛИСТОВ

**7 февраля с.г МИД Республики Беларусь направил МИД Российской Федерации официальное представление по поводу возможной приостановки деятельности представительства НТВ в Минске, что само по себе является беспрецедентным шагом. Перед этим корреспондент НТВ Александр Ступников был публично обвинен с экрана государственного телевидения чиновником МИДа в том, что "тенденциозный подбор материалов корреспондента наносит урон дружеским отношениям Беларуси и России".**

**Еще более поразительным является повод, избранный для столь грозного предупреждения. Им стал сюжет Александра Ступникова, в котором шла речь о передаче ведомственного детсадика МВД управлению делами президента Беларуси, а в более широком смысле — также об отношении властей к нуждам рядовых сотрудников правоохранительных органов. Репортаж НТВ был препарирован и по-своему интерпретирован в информационной программе Белорусского телевидения, которое многократно возвращалось к затронутой теме, чтобы еще раз обвинить журналиста в некоей тенденциозности и недобросовестности.**

**Мы не станем оценивать профессиональный уровень корреспондента НТВ и качество передач этой телекомпании — об этом лучше судить зрителю. Кстати, тот факт, что НТВ пользуется большой популярностью у белорусских зрителей, не отрицает и МИД Беларуси.**

**Однако явно неадекватная реакция внешнеполитического ведомства на рядовой репортаж вызывает, по меньшей мере, недоумение. Когда весной прошлого года в Минске во время мирной демонстрации граждан подверглись неспровоцированному насилию не только ее участники, но и многие журналисты — в том числе зарубежные — МИД хранил молчание. Более того, привычным стилем для высшего руководства страны стали постоянные угрозы в адрес корреспондентов всех российских телерадиокомпаний, аккредитованных при Министерстве иностранных дел.**

**Не выходит ли, что главным врагом белорусско-российских отношений стали свобода слова и право на свободное распространение информации? Впрочем, акция МИДа имеет и положительную сторону. Подобные демарши в отношении корреспондентов зарубежных СМИ способны привлечь большее внимание мировой общественности к многочисленным нарушениям свободы печати в самой Беларуси.**

*11 февраля 1997 г* **Правление БАЖ**

У фокусе БАЖ

# ВАЙНА СУПРАЦЬ СМІ

# WAR AGAINST MEDIA

## Хроніка парушэнняў свабоды слова і друку, правоў журналістаў у Беларусі ў 1996-1997 гадах

## Chronology of the violations of Freedom of Speech and Press, rihgts of journalists in the Republic of Belarus during the years 1996-1997.

### 20 КАСТРЫЧНІКА / OCTOBER

...карэспандэнт РТР у Менску Юры Свірыдаў і аператар тэлекампаніі Алег Пушкін былі спыненыя аховай прэзідэнта на ўваходзе ў Палац спорту, дзе праходзіў Усебеларускі народны сход. Адзін з ахоўнікаў парваў пасведчанне аб акрэдытацыі Л. Свірыдава. Напярэдадні карэспандэнты РТР былі акрэдытаваныя на сходзе асабіста кіраўніком службы бяспекі прэзідэнта сп. Барадзічам.

...the day when the "RTR"( Russian Television) correspondent Leonid Sviridov and his cameraman Aleh Pushkin were stopped by the special presidential security forces in front of the Sports Palace where the All-Belarusian People's Assembly, organised by the President, took place. One of the guards tore into pieces Leanid Sviridov's accreditation form ( which has been given back lately). This was done despite the fact that accreditation for Russian TV-journalists had been personally issued by the Mr Barodzich, head of the special presidential security forces.

### 23 КАСТРЫЧНІКА / OCTOBER

...карэспандэнты трох расейскіх тэлекампаніяў – ГРТ, РТР і НТВ -- не былі дапушчаныя аховай прэзідэнта да месца ўрачыстай зваркі газаправоду Ямал - Заходняя Еўропа ў Столінскім раёне , якая адбывалася ў прысутнасці Аляксандра Лукашэнкі і кіраўніка канцэрну «Газпрам» Рэма Вяхірава. Афіцыйная акрэдытацыя расейскіх журналістаў была аформлена загадзя праз прадстаўніцтва «Газпраму» ў Беларусі.

...the day when correspondents of three Russian TV companies, "ORT" (Russian Public Television), "RTR" (Russian Television) and NTV (Independent Television) were not allowed, being stopped by the special presidential security forces, to attend the site of the gas pipe line Yamal-Europe symbolic welding in the Stolin district. President Lukashenko and the chairman of the «Gasprom» company Rem Byakhirev took part in the event. All Russian journalists had the accreditation which they had received a way before the event from the representatives of «Gasprom» in Belarus.

### 31 КАСТРЫЧНІКА / OCTOBER

...Брэсцкая абласная пракуратура вынесла папярэджанне газеце «Брестский курьер» аб тым, што гэтае выданне парушыла Закон аб друку. Парушэнне сфармулявана як «распальванне сацыяльнай варожасці.»

...the day when Brest local newspaper «Brestski Kuryer» got a warning that it had violated the Law on Press. The warning came from the Brest regional prosecutor and was worded as «heating up social discord».





### 2 ЛІСТАПАДА / NOVEMBER

....праваахоўныя органы часова затрымалі ў Менску супрацоўніцу газеты «Здравый смысл» Ціну Клыкоўскую. Фармальнай падставай для затрымання сталі знойдзеныя ў яе пры вобыску ўлёткі так званай менскай арганізацыі УНА-УНСА, якія журналістка захоўвала ў прафесійных мэтах.

...the day when «Zdravy Smysl» newspaper correspondent, Tina Klykovskaya, was arrested by the police. The formal reason for the arrest was the fact that leaflets of the so-called Minsk-based Ukranian organization UNA-UNSO were found on her desk.

### 4 ЛІСТАПАДА / NOVEMBER

...быў учынены вобыск у рэдакцыі газеты «Здравый смысл». Праваахоўныя органы шукалі ўлёткі УНА-УНСА і іншыя дакументы.

...the day when a special search in the editorial office of «Zdravy smysl» newspaper took place. The police was searching for UNA-UNSO leaflets and other documents.

### 11 ЛІСТАПАДА / NOVEMBER

...уласны карэспандэнт газеты «Известия» ў Беларусі Аляксандр Старыкевіч атрымаў афіцыйнае папярэджанне ад генеральнай пракуратуры ў сувязі з публікацыяй яго артыкула ў газеце «Свабода» пад назвай «Евангелле ад Лукавага». Журналіст папярэджаны аб тым, што ў сваім артыкуле ён нібыта дапусціў «выказванні зняважлівага характару, якія ганяць гонар і годнасць» прэзідэнта Аляксандра Лукашэнкі.

...the day when «Izvestia» Russian newspaper correspondent Alexander Starikevich received a special warning from the Prosecutor genaral after the feature «Evangelie ot Lukavogo» («Gospel of the Wily») which had been published in «Sv aboda» independent newspaper. Warning stresses the fact that journalist used humiliating words and expressions which insulted the President.

### 12 ЛІСТАПАДА / NOVEMBER

...ў Вышэйшым гаспадарчым судзе Беларусі распачаўся разгляд справы аб закрыцці газеты «Свабода» паводле зыску Дзяржкамдруку, які папярэдне вынес гэтаму выданню некалькі папярэджанняў – у тым ліку і ў сувязі з публікацыяй «Евангелля ад Лукавага».

...the day when the Highest Economic Court started newspaper «Svoboda»closure trial. The State Committee on Press had initiated the closure motion in the court. It was the State Committee on Press which warned the staff of the newspaper about the violation of the Law on Press. One of the warnings came in connection to «Evangelie ot Lukavogo» feature.

## 1997

### 3 СТУДЗЕНЯ / JANUARY

...карпункт ГРТ (Грамадскага расейскага тэлебачання) у Менску вымушаны пакінуць службовае памяшканне, дамова аб арэндзе якога была ў аднабаковым парадку скасаваная Белтэлерадыёкампаніяй. Гэтаму рашэнню кіраўніцтва дзяржтэлерадыё папярэднічалі беспадстаўныя абвінавачванні ў адрас карэспандэнта ГРТ у неаб'ектыўнасці і палітычнай заангажаванасці.

...journalists of the Russian television company "ORT" had to leave their office in Minsk

**5** ЛЮТАГА / FEBRUARY

...падчас разгона пікету, арганізаванага БНФ ля амбасады Расейскай Федэрацыі ў Менску, міліцыяй быў затрыманы пры выкананні службовых абавязкаў фотажурналіст Сяргей Грыц. Пасля высвятлення асобы ў РАУС ён быў адпушчаны.

...hen the picket organised by the Belarusian Popular Front near the Russian embassy in Minsk was being dispersed, the police detained the photo correspondent Syarhey Hryts who was carrying out a professional assignment. He was released after an identification procedure at the police station.

**7** ЛЮТАГА / FEBRUARY

...у эфіры Беларускага тэлебачання прагучала заява МЗС Беларусі, у якой карэспандэнт НТВ у Менску Аляксандр Ступнікаў абвінавачаны ў тым, што яго рэпартажы нібыта наносяць "урон дружалюбным адносінам паміж Беларуссю і Расеяй". У гэтай сувязі МЗС выступіла з пагрозай папярэджання на адрас карэспандэнта. Нагодай для гэтай "дыпламатычнай акцыі" паслужыў сюжэт Ступнікава ў праграме НТВ аб перадачы дзіцячага садка Міністэрства ўнутраных спраў у веданне кіраўніцтва справамі прэзідэнта Лукашэнкі.

...belarusian television broadcast the statement of Belarus' Ministry of Foreign Affairs which accused Mr Aleksandr Stupnikov, Minsk correspondent of the Russian television company "NTV", of "doing harm to the friendly relations between Belarus and Russia". The Foreign Ministry issued a warning to the journalist. The reason for this was Mr Stupnikov's report in an "NTV" programme about the transfer of a kindergarten of the Ministry of Internal Affairs under the management of the President's Administrative Department.

*Склаў Віталь ТАРАС*







*Жанна ЛІТВІНА, прэзідэнт БАЖ*

# "ЗНАЁМЫЯ "МЕЛОДЫІ" НЕ ВЕЛЬМІ ДАЛЁКІХ ЧАСОЎ"

Ёсць, на мой погляд, вельмі ўдалы журналісцкі прыём у нашых маскоўскіх калегаў з інфармацыйнай праграмы НТВ "Времечко": "...сёння вы не пачуеце...", "...у нашай праграме мы вам не раскажам..." І калі з расійскага тэлеэкрана гэта ўспрымаецца як мілы жарт, то ўжо ў дачыненні да нашых інфармацыйных выпускаў тэлебачання і радыё яго смела можна ўжываць як эпіграф. Такім чынам, з беларускай інфармацыйнай праграмы вы нічога не зразумееце, чаму і з-за каго Рада Еўропы прыпыніла для нашай краіны статус спецыяльна запрошанай; вы не даведаецеся, чым сёння займаецца кааліцыйны ўрад; вы не пачуеце пра тое, што адбываецца апошнім часам на валютных біржах і ў фінансавых кампаніях...

Так у эфіры — кожны дзень, з ранку і да вечара. За ўсім гэтым — бясконцае жаданне ўладаў кантраляваць інфармацыйную прастору, фільтраваць думкі, уплываць на свядомасць і розум сваіх суграмадзян. І ўсё дзеля таго, каб гэтыя суграмадзяне зрабілі патрэбны ўладам выбар. Ужо не аднойчы гучала, што ў нашай краіне апошнім часам ідэалагічная апрацоўка ўзведзена ў ранг дзяржаўнай палітыкі. Інакш чым патлумачыць, што нацыя адмаўляецца ад роднай мовы, што на адно з пытанняў апошняга рэферэндуму — "Ці згодныя вы, каб фінансаванне ўсіх галінаў улады вялося з бюджэту і галосна?" — людзі, не ўтрымаўшыся на пазіцыях здаровага сэнсу, адказалі: "Не". Сам гэты факт — яшчэ адно сведчанне, што нашая чацвёртая ўлада (амаль цалкам загнаная ў сферу абслугі, заангажаваная, падначаленая выканаўчай уладзе) бліскуча выканала ролю агітатара і прапагандыста.

Пераможцу не судзяць?.. Але ўжо немагчыма пазбегнуць і ўсведамлення таго, што з намі адбылося; нікуды не дзецца ўдзельнікам падзей ад суду сумлення. Можа, таму некаторыя калегі пры сустрэчы апускаюць вочы, пачынаюць паўшэптам расказваць аб цяжкасцях працы "пад прыгнётам ды прымусам". Альбо чаго вартая пазіцыя некаторых журналістаў "Народнай газеты". У той час, калі ўлада дазваляла сабе зневажаць, мяняць на падставе ўказаў кіраўнікоў гэтага выдання, ігнаруючы закон і нормы маралі, нашыя калегі тлумачылі сваю беспрынцыпнасць і пакорлівасць "звышзадачай" — ратаваць газету, зберагчы калектыў. Якія мы самі, такога і стаўлення да сябе вартыя. Таму не дзіўна, што выканаўчай уладзе лёгка ўдалося справіцца з такой з'явай, як прафесійная салідарнасць, і здзейсніць раскол у журналісцкім асяроддзі.

Дастаткова было ў сярэдзіне мінулага года Дзяржкамдруку скласці рэестр "сацыяльна значных" выданняў, — тых, што вызначаюцца адданасцю, жаданнем падабацца ўладам, — і гэты раскол стаў відавочным. Раскол на тыя выданні, якія з усіх сілаў абслугоўваюць ула-

ду, і тыя, што схільныя да бескампраміснага дыялогу з той самай уладай; на тых, хто мае права на інфармацыю і каго можна не акрэдытоўваць, ігнараваць, выштурхоўваць з уладных калідораў; хто можа разлічваць на дзяржаўную падтрымку і тых, каго можна выгнаць з друкарні, забараніць распаўсюджвацца праз «Саюздрук».

У нашай краіне можна выцесніць з эфіру высокаінтэлектуальную, нацыянальна свядомую частку грамадства. Можна, не зважаючы на пастанову Канстытуцыйнага суда, — напрыклад, Белтэлерадыёкампаніі, — два гады працаваць абапіраючыся на палажэнне, адпаведна якому тая самая кампанія адначасовы выконвае функцыі органа дзяржаўнага кіравання і сродка масавай інфармацыі. У той жа час можна нахабна, спаслаўшыся на "тэхнічныя прычыны", адабраць частату, ашукаць, забараніць працаваць у эфіры калектыву "Радыё 101,2".

Можна ў кожным афіцыйным выступе (як сведчанне "росквіту" свабоды слова) прыводзіць лічбу, што ў нашай краіне зарэгістравана 700 выданняў, але ні разу не ўзгадаць, што наклад усёй апазіцыйнай прэсы, разам узятай, меншы, чым наклад, напрыклад, "Советской Белоруссии". Можна, не саромячыся, падчас сустрэчы з місіяй Рады Еўропы, АБСЕ, Еўрапарламенту назваць лічбу, што ў нас зарэгістравана 350 тэлерадыёкампаніяў і не сказаць, што ў эфіры на ўсю дзяржаву працуюць сёння 2 (!) недзяржаўныя радыёстанцыі (прычым, адна з іх — "Радыё РОКС" — транслюецца з Масквы), што ледзь не адзіны недзяржаўны тэлевізійны "8 канал" аднавіўся ў эфіры пасля таго, як быў узяты пад кантроль давераных і надзейных людзей прэзідэнта.

У занядбанні — не толькі ідэя свабоды слова, а і сам прынцып свабоднага абарачэння інфармацыі, які з'яўляецца прыкметай дэмакратычнай дзяржавы. Да таго, што ў дзяржаўным эфіры пануе іншы прынцып, прынцып фільтравання, скажэння інфармацыі, мы ўжо прызвычаіліся. Але і гэта яшчэ не ўсё. Ведаю пра такі выпадак на рэспубліканскім радыё: пасля рэкламовага роліка (як трэба электарату адказваць на пытанні рэферэндуму) прагучала песня Талькова пра тое, што спявак хацеў бы вярнуцца "в страну не дураков, а гениев". За такое "свавольства" гукарэжысёра выклікаў намеснік старшыні Белтэлерадыё Ул.Ядранцаў, які ўбачыў за ўсім гэтым ідэалагічную правакацыю.

Як тут не ўзгадаць выпадак з тым самым рэспубліканскім радыё, апісаны Валкагонавым у кнізе "Трыумф і трагедыя". У 1937 годзе на пленуме партыі выступіў нехта Багушэўскі, які распавёў пра антысавецкую перадачу, пра "злачынствы": пасля абвяшчэння прысуду трацкістам у эфіры гучала бемольная саната Шапэна, у якой ёсць жалобны марш.

Пагадзіцеся, усё гэта — знаёмыя "мелодыі" не такіх ужо і далёкіх часоў. Ад усведамлення гэтага дыхаецца цяжка, адчуваеш, што носіцца ў паветры штосьці змрочнае і трывожнае. І супрацьстаяць яму можна, толькі не згубіўшы пачуцця ўласнай годнасці і сумлення — як у жыцці, гэтак і ў прафесіі.



Мастак А.ГУРСКІ





# ЖУРНАЛІСЦКАЯ ТАЛАКА

**У новым аб'яднанні журналісцкіх арганізацыяў краінаў СНД Беларусь прадстаўляе БАЖ**

У кастрычніку мінулага года Беларуская асацыяцыя журналістаў набыла статус удзельніка пастаянна дзеючага "Круглага стала" кіраўнікоў журналісцкіх саюзаў і арганізацыяў краінаў СНД. Падзея гэта адбылася ў Санкт-Пецярбургу. Месцам правядзення наступнага пасяджэння "Круглага стала" вызначана Рэспубліка Беларусь, г.Мінск.

"Круглы стол", заснаваны ў верасні 1995 года, аб'яднаў розныя журналісцкія арганізацыі (Азербайджана, Арменіі, Беларусі, Грузіі, Казахстана, Кыргызстана, Малдовы, Расійскай Федэрацыі, Таджыкістана, Узбекістана, Украіны). Але праблемы ў кожнай з іх адны і тыя ж: забеспячэнне прафесійных і сацыяльных правоў журналістаў, узаемаадносіны з органамі ўлады, доступ да інфармацыі, праблемы выпрацоўкі новых прававых стандартаў, якія б рэгламентавалі юрыдычныя нормы развіцця СМІ ў посттаталітарных дзяржавах з улікам міжнароднага вопыту і г.д.

Стварэнне ўмоваў для абмену інфармацыяй, аб'яднанне намаганняў у абароне свабоды слова, каардынацыя дзейнасці журналісцкіх арганізацыяў — далёка не поўны пералік таго, чым займаюцца ўдзельнікі "Круглага стала".

"Канцэпцыя заканадаўства аб СМІ ў посттаталітарных дзяржавах" — такую назву мае дакумент, распрацаваны грамадскай праваахоўчай арганізацыяй "Грамадскі кантроль", які быў абмеркаваны і прыняты ў Санкт-Пецярбургу.

Дарэчы, тэкст канцэпцыі разасланы парламентам краінаў СНД, арганізацыям, якія валодаюць правам заканадаўчай ініцыятывы. Мы прапануем вам некаторыя вытрымкі з гэтага дакумента:

— СМІ павінны быць незалежнымі ад органаў дзяржаўнай улады і кіравання ў цэнтры і на месцах;

— у заканадаўстве павінны быць забяспечаныя гарантыі немагчымасці ўзнікнення якой бы там ні было манаполіі пры рэалізацыі правоў грамадзян на атрыманне інфармацыі — ні з боку дзяржавы, ні з боку камерцыйных, палітычных, рэлігійных, грамадскіх аб'яднанняў альбо іншых груп з карпаратыўнымі інтарэсамі;

— мэтазгодна ўвесці палажэнне, якое б выключала з суб'ектаў, надзеленых правам заснавання друкаваных СМІ і валодання імі, органы ўсіх галінаў улады і кіравання. Дзяржаўныя тэлерадыёкампаніі павінны быць рэарганізаваныя ў грамадскія (публічныя) тэлерадыёкарпарацыі з паступовай заменай іх бюджэтнага фінансавання на абанентную плату. Рэкамендуецца распрацаваць заканадаўчыя нормы, якія б выключалі ўмяшальніцтва ўладаў у вяшчальную палітыку гэтых карпарацыяў;

— для ўсіх СМІ любыя дзяржаўныя органы ўлады і кіравання альбо органы самакіравання павінны з'яўляцца ўсяго толькі крыніцай інфармацыі.

Характар інфармацыі павінна вызначаць не крыніца, якая яе рыхтуе, не органы ўлады і кіравання, а патрэбы яе спажыўцоў (чытачоў, тэлегледачоў, радыёслухачоў). Ніхто, акрамя спажыўцоў інфармацыі, не мае права дыктаваць СМІ аб'ёмы, тэмы і танальнасць публікацый;

— для рэалізацыі правоў грамадзян на свабоднае атрыманне інфармацыі дзяржава павінна падтрымліваць СМІ (незалежна ад формаў уласнасці і палітычнай арыентацыі). Не павінна быць выбарачных датацый з бюджэту тым альбо іншым СМІ;

— дзяржаўныя органы ўлады павінны садзейнічаць максімальнаму доступу грамадзянаў сваёй краіны да сусветнай інфармацыйнай прасторы, а таксама развіццю новых інфармацыйных тэхналогій і доступу да іх;

— дасягненне гэтых мэтаў будзе магчымым пры ўмове прыняцця законатворчых актаў: “Аб свабодзе інфармацыі”, “Аб пераўтварэнні дзяржаўнага тэлерадыёвяшчання ў грамадска-прававое”, “Аб грамадскіх назіральных саветах”, “Аб рацыянальным выкарыстанні частотных рэсурсаў”, “Аб рэкламе”, “Аб кабельным тэле- і радыёвяшчанні”.

**НАВІНЫ НАВІНЫ НАВІНЫ НАВІНЫ**

## ДВА ДНІ НА ПАВЫШЭННЕ КВАЛІФІКАЦЫІ

12-13 красавіка 1997 года Беларуская асацыяцыя журналістаў і шведскі Інстытут павышэння кваліфікацыі журналістаў (FOJO) плануюць правесці ў Мінску два семінары. У першы дзень — для сталічных беларускіх журналістаў, у другі — для рэгіянальных.

За дадатковай і больш падрабязнай інфармацыяй можна звяртацца ў БАЖ.

## СВЯТО МЕСТО ПУСТО НЕ БЫВАЕТ

На пасаду загадчыка карэспандэнцкага пункту Ўсерасійскай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі (УДТРК) у Мінску заступіла Алена Лукашэвіч.

Яе папярэднік — Леанід Свірыдаў — адпаведна з загадам кіраўніцтва гэтай тэлерадыёкампаніі ад 14 снежня 1996 года быў прызначаны карэспандэнтам УДТРК у Славакіі. Але ў студзені 1997-га яго перавялі ў Маскву на пасаду галоўнага спецыяліста аддзелу замежнай карэспандэнцкай сеткі Дырэкцыі знешніх сувязяў. Сёння, як паведаміў сам Л.Свірыдаў, ён чакае новага прызначэння — ў Варшаву, дзе неўзабаве мае адкрыцца Ўсходнееўрапейскае бюро УДТРК.

Са слоў А.Лукашэвіч, уціску з боку беларускіх уладаў яна на новым месцы працы не адчувае. Аднак зазначае, што карэспандэнтам расійскіх тэлерадыёкампаній цяжка атрымаць акрэдытацыю на афіцыйныя мерапрыемствы з удзелам кіраўніцтва рэспублікі. Так, у лютым 1997 года журналісты НТВ, ГРТ і УДТРК з гэтай прычыны не маглі патрапіць на пашыраную калегію Міністэрства замежных справаў Беларусі, а таксама на пашыранае пасяджэнне калегіі Савету Міністраў.

*Уладзімір ДЗЮБА.*





**У фокусе БАЖ**

***Валянціна АКСАК***

# ШТО БАЧЫЦЦА ЗА ЎЗБУЙНЕННЕМ БЕЛАРУСКАМОЎНАЙ ПЕРЫЁДЫКІ...

Калісьці, напачатку 90-ых, удзельнікаў першых дэмакратычных мітынгаў небезвядомы Павел Ізотавіч Якубовіч, цяперашні рэдактар прэзідэнцкай газеты, назваў клубам прыхільнікаў “ЛіМа”. У трапнасці назірання былому аглядальніку “Народнай газеты” не адмовіш. “ЛіМ” у часы змагання за незалежнасць краіны адыграў значную ролю. Сёлета ў шэрагах мітынгуючых за незалежнасць зноў апынуліся чытачы гэтай газеты творчай інтэлігенцыі Рэспублікі Беларусь.

Апазіцыйнаму выданню дзяржава вырашыла адмовіць у фінансаванні. Добра ведаючы, што творчыя людзі самі слаба ўмеюць зарабляць грошы, разлік быў зроблены правільны: без дзяржадатацыі “ЛіМ” не выжыве. У такія ж варункі пастаўленыя газеты “Культура” і “Наша слова”. Механізм знішчэння беларускамоўнай мастацка-культурніцкай перыёдыкі выдаецца, аднак, за высакароднае імкненне дзяржавы дапамагчы ёй у складаны час. Акцыя называецца ўзбуйненнем аднапрофільных выданняў ці стварэннем на базе “ЛіМа” новай літаратурна-мастацкай газеты, якая будзе пісаць пра ўсе навіны беларускай культуры. І на яе фінансаванне ў дзяржавы грошы ёсць. Але хто плоціць, той, як вядома, і музыку заказвае.

Сузаснавальнік “ЛіМа”, Саюз беларускіх пісьменнікаў, з “новай музыкай” нязгодны. Пры гэтым ён адназначна ўспрымае прапанову Дзяржкамдруку як замах не толькі на “ЛіМ”, але й на беларускае слова наогул. Агульны пісьменніцкі сход, скліканы з гэтай нагоды 16 кастрычніка, выявіў небачнае раней у гэтай аўдыторыі адзінадушша датычна сацыяльна-палітычнага ды прававога становішча беларускага друку.

Паэт Анатоль Вярцінскі, дэпутат ВС мінулага склікання, які працаваў у Камісіі па сродках масавай інфармацыі і фактычна яе ўзначальваў, нагадаў, што калі дзяржава была зацікаўленая ў беларускім друкаваным слове, то не ўзнікала падобных прапановаў. Эканамічны бок справы, лічыць сп. Вярцінскі, — толькі адгаворка. Бо эканомія, паводле папярэдніх падлікаў, складае недзе каля 2 млрд. рублёў (100 тысяч доляраў ЗША) у год. І гэта ў той час, калі дзяржава, ствараючы ільготы дзеля розных сумнеўных арганізацый тыпу фонду Махмуда Эсамбаева, страчвае мільёны доляраў. На фоне такіх лічбаў згаданая “эканомія” выглядае проста смешнаю. На самой справе ёсць імкненне знішчыць усе выданні, якія асмельваюцца не згаджацца з антынацыянальнай пазіцыяй кіраўніцтва дзяржавы.

Тое, што адбываецца зараз у прэзідэнцкіх сродках масавай інфармацыі, Анатоль Вярцінскі назваў “шабашом антынацыянальных сілаў, якімі кіруе натоўп бязродных палкоўнікаў”.

У нас існуе свая традыцыя друку. Яна пачынаецца з першых беларускіх газет “Наша доля” і “Наша ніва”. Абедзве яны з'явіліся ў 1906 годзе. “Замест таго, каб шырока адзначыць 90-годдзе беларускага друкаванага слова, Дзяржкамдрук шукае шляхі знішчэння сёняшніх беларускіх газет”, —сказаў Анатоль Вярцінскі.

Традыцыю зліцця, а фактычна — закрыцця беларускіх літаратурна-мастацкіх выданняў гісторыя Беларусі XX стагоддзя ўжо ведае, — сказаў паэт, прафесар Белдзяржунівер-

сітэту Алег Лойка. Ен нагадаў, што пасля 1932 года ў краіне заставаўся толькі адзін літаратурны часопіс — "Полымя". Астатнія, ў тым ліку й такія славутыя, як "Маладняк" ды "Узвышша", былі знішчаны. Як той час называўся, усім вядома і сённяшнія аналогіі з ім відавочныя. Сучасную сітуацыю ў беларускай культуры Алег Лойка назваў духоўным генацыдам, які праводзіцца ад імя народа. А Валянцін Тарас правёў больш уражлівыя аналогіі. "Беларусь 90-х — гэта Германія 30-х." — сказаў ён.

Паэт, галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Сяргей Законнікаў папрасіў прадстаўніцу Дзяржкамітэту па друку Лілію Ананіч патлумачыць, чаму аб'ядноўваюцца не рускамоўныя, а менавіта беларускамоўныя выданні. Аднак спадарыня Ананіч выказала рашучую нязгоду з высновамі выступоўцаў. Камітэт, па ейных словах, не займаецца ўдушэннем беларускага друку, а, наадварот, заклапочаны ягоным станам. Таму завяршае распрацоўку праекту Закону аб дзяржаўнай падтрымцы сродкаў масавай інфармацыі і кнігавыдання, у якім, паводле сцвярджэння Ананіч, прадугледжваюцца ільготы для беларускамоўных мастацкіх літаратурных і дзіцячых выданняў. Яна падкрэсліла, што пры распрацоўцы праекту камітэт не атрымаў ніводнае прапановы ад адпаведнай камісіі Вярхоўнага Савета. Паўстае, дарэчы, пытанне, чаму наогул заканатворчасцю ў гэтай справе займаецца не сам парламент як заканадаўчы орган, а выканаўчая структура. Аказваецца, робіць гэта Дзяржкамітэт па друку ў адпаведнасці з пратаколам прэзідэнцкай нарады па сацыяльна-культурнай сферы, якая адбылася 20 чэрвеня 1996 года.


*Мастак А.ГУРСКІ*

Закон, безумоўна, будзе падтрымліваць і абараняць дзяржаўныя беларускія выданні. Але толькі тыя, якія падтрымліваюць і абараняюць сённяшнюю ўладу.

"ЛіМ" у іх лік не трапляе. Дамоклаў меч над ім не зняты.

**НАВІНЫ НАВІНЫ НАВІНЫ НАВІНЫ**

## МЗС УЗЯЎ "ВЫСОКУЮ" НОТУ

11 лютага ўласны карэспандэнт НТВ у Беларусі Аляксандр Ступнікаў, акрэдытаваны пры Міністэрстве замежных спраў рэспублікі, быў выкліканы ў знешнепалітычнае ведамства. У прысутнасці кіраўніка прэс-службы МЗС Уладзіміра Кабанава яму было вынесена "афіцыйнае вуснае папярэджанне" з прычыны неаб'ектыўнага, з пункту гледжання беларускіх уладаў, падыходу да падбору сюжэтаў для рэпартажаў НТВ з Беларусі і наогул неаб'ектыўнага асвятлення падзей у краіне.

А.Ступнікаву таксама паведамлена аб тым, што яшчэ 7 лютага беларускае МЗС накіравала ў Міністэрства замежных спраў Расіі адпаведную ноту. Аднак з яе поўным зместам уласны карэспандэнт НТВ азнаёмлены не быў: яму зачытана толькі адно з заключных палажэнняў гэтага дакумента. Яно ўяўляе сабой папярэджанне, што ў выпадку, калі прадстаўніцтва НТВ у Мінску і далей будзе распаўсюджваць неаб'ектыўную і недакладную інфармацыю, беларускае МЗС будзе вымушана разгледзець пытанне аб прыпыненні яго дзейнасці.

*Алег САКАЛОЎ.*







*Ігар РЫНКЕВІЧ,*
*выканаўчы дырэктар БАЖ*

# Перад жорсткім выклікам часу

**Агульнае становішча прэсы ў Беларусі характарызуецца як выключна складанае, у краіне наступае "інфармацыйны таталітарызм". Канстытуцыйныя палажэнні аб свабодзе друку, інфармацыі, адпаведнае дзеючае заканадаўства ў значнай ступені дэкларатыўныя, недасканалыя і часта выкарыстоўваецца для беспадстаўнага пераследу незалежных СМІ і журналістаў. Так, фактаў афіцыйнай цэнзуры, ідэалагічнага кантролю, прымусу беларускіх журналістаў сакралізаваць тэксты уладаў усё больш.**

**Антыправавыя дзеянні ўладаў падмацоўваюцца дзяржаўнай манапалізацыяй СМІ. Агульнанацыянальныя друкаваныя выданні і электронныя СМІ, амаль уся паліграфічная прамысловасць знаходзяцца ва ўласнасці і кіраванні адміністрацыі прэзідэнта.**

**Гэтыя праблемы ўскладняюцца дамініраваннем у інфармацыйнай прасторы Рэспублікі Беларусь расійскіх мас-медыя.**

### НА ШЛЯХУ ДА КАРПАРАТЫЎНАЙ САЛІДАРНАСЦІ

Сама журналістыка - гэта занятак творчых асоб, "вольных мастакоў", адсюль іх індывідуалізм, адасобленасць. З пачатку развіцця рынкавых адносін у працаўнікоў СМІ рознастайнасць інтарэсаў стала ўзмацняцца. Адбылася іх дыфферэнцыяцыя на ўласнікаў, рэдактараў-мэнеджэраў і наёмных супрацоўнікаў. Да гэтага дадалася вертыкальная канкурэнцыя на інфармацыйным рынку за сферы ўплыву і спажыўцоў паміж асобнымі СМІ. А калі няма адзінства інтарэсаў, карпаратыўная салідарнасць праблематычная.

Аднак у Беларусі агульнасць інтарэсаў работнікаў мас-медыя пашыраецца з-за экспансіі дзяржавы, яе памкненняў да цэнзуры, ідэалагічнага кантролю і нацыяналізацыі.

Пасля праведзенага ў лістападзе 1996 года рэферэндуму з сумніцельнай легітымнасцю аўтарытарны рэжым А.Лукашэнкі распачаў уціск на няўрадавыя арганізацыі, якія выкрывалі шматлікія парушэнні заканадаўства. Такія свабодныя асацыяцыі грамадзян улады вульгарна трактуюць як палітычныя арганізацыі і пачынаюць выціскаць з і без таго вузкага поля грамадзянскай супольнасці. Гэта не толькі нясе вялікую небяспеку аб'яднанням, подобным БАЖ, але і кансалідуе іх сяброў.

БАЖ ужо на пачатку сваёй дзейнасці сутыкнулася яшчэ і з праблемамі функцыянальнага кшталту. Закладзеныя ў статут палажэнні аб задачах асацыяцыі і магчымасцях сяброўства даволі шырокія. Але паўстае пытанне аб тым, каб БАЖ рэалізоўвалася і як прафсаюз, а не толькі як клубнага характару грамадская арганізацыя. На шляху да трэд-юніянізацыі БАЖ, акрамя заканадаўчых аспектаў, узнікне дыскусія аб складзе прафсаюза. Замежны досвед нагад-

вае аб супярэчнасцях паміж уласнікамі, выдаўцамі, творчым, тэхнічным і камерцыйным персаналам СМІ. Канферэнцыя выдаўцоў незалежнай прэсы, арганізаваная БАЖ у сакавіку 1996 года, ужо паказала спецыфіку памкненняў работнікаў мас-медыя, якія займаюцца выдавецтвам і распаўсюджваннем прэсы. Нельга забывацца на асаблівасці інтарэсаў друкаваных і электронных СМІ.

### АРГАНІЗАЦЫЙНАЯ ПРАЦА БАЖ І ВЫКАНАННЕ СТАТУТНЫХ ЗАДАЧ

Руціна стварэння моцнага грамадскага аб'яднання з'явілася сур'ёзным выпрабаваннем для энтузіязму заснавальнікаў БАЖ. Нам удалося хутка зарэгістраваць асацыяцыю і выканаць дзяржаўныя патрабаванні па набыццю статуса юрыдычнай асобы, адпаведнай атрыбутыкі. У асацыяцыі пэўны час дзейнічаў офіс, здабытая мэбля. Былі складанасці з функцыянаваннем банкаўскіх рахункаў. Спачатку БАЖ іх адкрыла ў філіі ўкраінскага банка "Інка", але неўзабаве пасля гэтага яго фінансавая няўстойлівасць прымусіла нас перайсці ў "Белбізнесбанк".

Пасля Ўстаноўчага з'езду кіраўніцтва асацыяцыяй ажыццяўлялі Рада і Праўленне БАЖ. Не ўсіх сяброў Рады з рэгіёнаў удавалася збіраць на паседжанні. Затое пасяджэнні Праўлення БАЖ праходзілі амаль штомесяц. У складзе сяброў Рады з'явіліся дзве вакансіі, са складу Праўлення выбыўшых няма.

Па рашэнню Рады ў адпаведнасці са статутам правам самастойнага распараджэння маёмасцю і сродкамі быў надзелены выканаўчы дырэктар БАЖ, фінансава-гаспадарчую справаздачнасць вяла бухгалтар. Выканаўчая дырэкцыя не стала органам, які б меў адпаведны штат супрацоўнікаў.

Колькасць сяброў БАЖ за справаздачны перыяд узрасла больш чым у тры разы і наблізілася да 150 асобных журналістаў, якія прадстаўляюць больш за 60 СМІ. Пачалі сваю дзейнасць гарадскія філіі БАЖ ва ўсіх абласных цэнтрах.

Для выканання статутных задач Праўленнем былі падрыхтаваны некалькі праектаў грантаў, тры з іх прынятыя і рэалізуюцца: па выданню бюлетэня БАЖ, аб Міжнародных прэміях БАЖ і па правядзенню Канферэнцыі выдаўцоў незалежнай прэсы.

БАЖ наладзіў некалькі круглых сталоў, канферэнцый па праблемах узаемаадносін прэсы і ўладаў: у лістападзе 1996 года разам з Цэнтрвыбаркамам — па ролі СМІ ў выбарах, у студзені-красавіку 1996 года з прадстаўнікамі новаабранага парламенту. Добрыя кантакты ўсталяваліся з камісіяй Вярхоўнага Савета па правах чалавека і СМІ, у якую юрыдычная група БАЖ уносіла прапановы па ўдасканаленню заканадаўства аб друку. У чэрвені 1996 года разам з іншымі грамадскімі арганізацыямі БАЖ праводзіла круглы стол па праблемах парушэння правоў чалавека і СМІ ў Беларусі падчас грамадзянскіх акцый.

Увогуле, усе факты наступа ўладу на свабоду слова і інфармацыі не заставаліся без рэакцыі з боку БАЖ. Мы праз заявы і прэс-канферэнцыі *апеліравалі* да міжнароднай і беларускай грамадскасці. Вядзецца адпаведны маніторынг "вайны супраць СМІ". З мая 1996 года парушэнні асобнымі журналістамі прафесійнай этыкі, прынцыпу аб'ектыўнасці інфармацыі вызначаюцца асацыяцыяй штомесячным уручэннем дыплома "Ганаровы крумкач". Ёсць прэцэдэнты судовых працэсаў, дзе журналісты, абараняюць свае правы пры дапамозе БАЖ.

БАЖ атрымала вядомасць і аўтарытэт у грамадстве, заняла сваё месца ў грамадзянскай супольнасці. Слабей наладжаныя кантакты з міжнароднымі грамадскімі аб'яднаннямі. БАЖ увайшла ў пастаянна дзеючы Круглы стол СМІ краін СНД. Зносіны з міжнароднымі фондамі толькі пачынаюцца. Наперадзе ў БАЖ яшчэ шмат спраў...





### ПЕРСПЕКТЫВЫ БАЖ

БАЖ стаіць перад неабходнасцю актывізаваць сваю дзейнасць. Патрэба ў экспансіўным росце БАЖ выклікана шэрагам небяспек для незалежных СМІ.

Для ўзмацнення гарызантальных сувязяў, падтрымкі рэгіянальных СМІ важна стварыць абласныя арганізацыі БАЖ і філіі ў невялікіх гарадах. Застаецца праблема эфектыўнай працы Праўлення і выканаўчай дырэкцыі БАЖ па спецыяльных накірунках.

Для абароны законных інтарэсаў журналістаў, аналізу заканадаўства прыйдзецца стварыць юрыдычную службу БАЖ. Важным праектам павінна стаць стварэнне Фонду ці Цэнтра абароны свабоды прэсы з адпаведнымі камп'ютэрным забеспячэннем і фінансавай базай. Гэта дасць магчымасць аказваць матэрыяльную дапамогу шматлікім журналістам, якія пацярпелі ад рэпрэсій з боку ўладаў.

Наспела неабходнасць прыняць Кодэкс прафесійнай этыкі журналістаў. БАЖ будзе вымушаны ініцыіраваць судовыя іскі да парушальнікаў правоў і свабод СМІ.

Дзеля прафесійнага росту журналістаў ужо падрыхтаваны шэраг семінараў, канферэнцый, стажыровак. Сябры БАЖ павінны атрымаць магчымасці авалодаць матэрыяльнымі і інтэлектуальнымі тэхналогіямі інфармацыйнага рынку.

Выдавецкая праграма асацыяцыі, акрамя выпуску нацыянальнага бюлетэня па праблемах прэсы, працы БАЖ як сузаснавальніка газеты "Наша слова", прадугледжвае выданне тэматычных зборнікаў. БАЖ прыйдзецца больш эфектыўна садзейнічаць сваім сябрам у стварэнні матэрыяльна-тэхнічнай базы.

Сувязі з міжнароднымі арганізацыямі і фондамі могуць дапамагчы вышэй акрэсленым задачам БАЖ пры метадычнай працы спецыяльнай групы пры Праўленні.

І раз сябры БАЖ свядома пайшлі па шляху пабудовы ў Беларусі дэмакратычнага адкрытага грамадства з моцнай чацвёртай уладай, нам нельга з яго зварочваць.

НАВІНЫ НАВІНЫ НАВІНЫ НАВІНЫ

### "КАРЫЧНЕВЫЯ" УЗНІМАЮЦЬ ГАЛОВЫ

**Некалі цяжка было уявіць, што у Беларусі, якая спазнала жудасці фашысцкай акупацыі, з'явяцца паслядоўнікі Гітлера. На жаль, зараз гэта сталася фактам. У снежні 1996 года на яурэйскіх могілках у Гомелі былі перакуленыя дзевяць помнікаў. А ужо у новым, 1997, годзе мішэнню фашыствуючых малойчыкау стау галоуны рэдактар яурэйскай рэспубліканскай газеты "Авив" ("Вясна"), аутар вострых антыфашысцкіх артыкулау Міхаіл Нордштэйн. Пасля ананімных званкоу з пагрозамі у яго спалілі дачу, а ля уваходу у кватэру намалявалі свастыку і эсэсаускі знак.**

**Беларускі народны фронт — ці не адзіная грамадска-палітычная арганізацыя, якая адрэагавала на дзеянні невядомых злачынцау у дачыненні да Міхаіла Нордштэйна — у адмысловай заяве ахарактарызавала іх як праяву фашызму. БНФ падкрэсліу, што антысеміцкія акцыі ажыццяуляюцца з мауклівага неумяшання уладау, а у афіцыйных сродках масавай інфармацыі "пануе вялікарускі чарнасоценны шавінізм".**

**Нялішне дадаць, што у горадзе-герої Мінску адкрыта прадаецца антысеміцкая літаратура, прывезеная з Расіі.**

*Вера ЮРКІНА.*

Чацвёртая ўлада

*Людміла ШЫЛАВА*

# ТЭЛЕВІЗІЙНАЕ ПОЛЕ БІТВАЎ

**Перадачы Беларускага тэлебачання наш глядач заўжды распазнаваў на сваім экране літаральна з першага кадра.**

Мясцовы адрас вяшчання адразу выдавалі ненатуральнасць фарбаў дзеяння, рэзкая гама колераў. Па якасці карцінкі мы пастаянна саступалі расійскім тэлеканалам, бо падводзіла застарэлая апаратура, адсутнасць сучасных інфармацыйных тэхналогій. Сёння такіх хібаў у родным эфіры пабачыш менш. Ёсць пэўныя змены і ў самой тэлепраграме. Але галоўны прынцып узаемадзеяння тэлебачання з аўдыторыяй, на жаль, застаецца нязменным. Рэспубліканскі эфір быў і застаецца сапраўдным полем бітвы. І ў пераносным сэнсе слова, калі слова і камера журналіста змагаліся за Ураджай альбо вялікую хімію. І, зразумела, у прамым, калі дзяржаўная манаполія на інфармацыю перарастае ў вострую палітычную праблему. Тэзіс аб тэндэнцыйным адлюстраванні падзей на дзяржаўным тэлеканале гучыць на мітынгах як яшчэ адно абвінавачванне ў адрас вышэйшай улады.

Праўда, самім творцам экраннай прадукцыі таксама не пазайздросціш. Якая радасць, скажыце, прафесіяналу працаваць у доме, які некалькі разоў запар, у залежнасці ад палітычнай кан'юнктуры, пераіначаваў свой статус ці то кампаніі, ці то камітэта і кожны раз пры гэтым альбо прымаў на работу, альбо звальняў з пасады. Але менавіта змена шыльдаў дапамагала тэледому "законна", у камандным парадку мяняць свайго адміністрацыйнага кіраўніка, які на тых жа "законных" умовах браў на сябе функцыі і настаўніка праграмнай палітыкі. Натуральна, пры такіх умовах адыходу ад строга арыентаванай ангажыраванасці вяшчання не адбывалася. І шырока разрэкламаваная свабода слова застаецца тут вобласцю тэорыі, а тэлесупрацоўнікі не мелі ні незалежнага ад нечага жадання фінансавання, ні абароненага ад палітычнага ўціску кіраўніцтва.

Пры адсутнасці распрацаванай заканадаўчай базы, якая б садзейнічала нармальнай працы тэлебачання ў рэжыме дыялогу з грамадствам, рэспубліканскі экран вымушаны быў пастаянна перабудоўвацца, аддаваць перавагу ў розныя часы зусім розным арыенцірам і каштоўнасцям. І тым не менш у гэтым хістанні ён выступаў надзвычай мэтанакіравана, бо імкнуўся любымі сродкамі ўпісацца ў палітычны ландшафт. Таму і тэлежыццё перадач пастаянна карэкціравалася ў залежнасці ад ціску дзяржаўных структур.

Вынікі праводзімай работы не прымусілі доўга сябе чакаць. Спачатку з экрана зніклі найбольш папулярныя штотыднёвыя перадачы "Праспект" і "Студыя "Палітыка" —іх замянілі на іншыя, ідэалагічна супрацьлеглыя. Тады кіраўніцтва тэлерадыёкампаніі займалася не столькі арганізацыяй эфіру, колькі яго фільтрацыяй — то жорсткай, то больш ліберальнай. Калі ж фільтраваць стала ўжо няма чаго (акрамя, здаецца, рэкламы), падверглі змене саму праграмную сетку вяшчання. Вячэрні блок праграм стаў трымацца на трох кітах: замежным серыяле, выпусках навін (АТН) і забаўляльнай перадачы. Дзякуючы падобным намаганням інфармацыя і відовішча збліжаліся, аказаліся ў нечым падобнымі адзін на другога, бо сталіся з'арыентаванымі на пэўны тып гледача, якому не трэба разважаць, зусім неабавязкова думаць. А пабудаваная на такой "лёгкай" аснове праграма наогул не можа мець патрэбы ў цэласным успрыманні, не актывізуе ўнутраныя рэсурсы аўдыторыі.

Раскалоўшы вяшчанне на дзве ізаляваныя часткі (АТН і ўсе астатнія рэдакцыі і аб'яднанні), менавіта АТН надалі функцыі галоўнага транслятара і інтэрпрэтатара падзей, што адбываюцца ў краіне. Каб іх выканаць, АТН удвая павялічыла аб'ём вяшчання (сёння з 5-ці гадзінаў бюджэтнага фінансавання на яго долю прыпадае цэлая гадзіна), прыдбалі сучаснае абсталяванне, узялі на кантрактную аснову, з павышанымі заробкамі, маладых вядучых і рэпарцёраў. А самае галоўнае — зацвердзілі ўласную сістэму прадастаўлення інфармацыі гледачу, ператварыўшы яго зноў у аб'ект выхавання і прапаганды.

Пачынаючы з дзяржаўнай сімволікі — герба і сцяга Рэспублікі Беларусь — ды заканчваючы адборам візуальнага і славеснага матэрыялу, гледачу прапануюць толькі інфармацыю, распрацаваную на дзяржаўным узроўні, адкуль выкінутыя цэлыя зоны рэчаіснасці. Аўдыторыі адначасова падаецца ў абавязковым парадку афіцыйнае тлумачэнне рашэнняў вышэйшага эшалону улады як найбольш правільных і мэтазгодных у сучасных умовах. Таму ў кадры, пяглядзячы на розныя назвы (Дыялогі, Рэгіён ці Спецыяльны рэпартаж) буйным планам даюцца практычна адны і тыя ж асобы, занятыя выкананнем службовых абавязкаў. Тэлебачанне літаральна па пятах ідзе за гэтымі людзьмі ва ўсіх іх паездках па рэспубліцы і за межамі. Аднак за асобнымі фактамі не бачны праблемы, і гледачам цяжка зразумець сутнасць сённяшняга падыходу да іх вырашэння.

Такім чынам, выпускі АТН недвухсэнсоўна накіраваныя на стварэнне вобраза добра адладжанай дзяржаўнай сістэмы, на абарону яе прывабнага выгляду. Аўдыторыі такіх перадач не трэба прымаць рашэнні, бо за яе іншыя людзі, якія прысутнічаюць ў кадры, вызначаюць ці не ўсё. Згадзіцеся, такі настрой заўжды небяспечны. У наш драматычны час ён выклікае асаблівую заклапочанасць. А вось супадзенне жыццёвых калізій і іх адлюстравання на тэлебачанні не адбываецца. І старое пытанне, пастаўленае нашым земляком Ф.М.Дастаеўскім, — "Што лічыць за праўду?" — тут, відаць па ўсім, вырашана будзе не хутка, таму што нашаму хатняму экрану пачуццё маралі пакуль яшчэ не па кішэні.

Ідэалізацыя вяшчання сродкамі АТН суправаджаецца адсутнасцю ў эфіры нармальнага функцыянавання грамадскай думкі з пастаяннай зваротнай сувяззю. А гэта, дарэчы, адзін з атрыбутаў прававой дэмакратычнай дзяржавы, бо менавіта праз грамадскую думку органы ўлады маюць дакладную інфармацыю аб пазіцыі розных групаў насельніцтва. На дзяржаўным жа тэлеканале яна сёння адсутнічае. Грамадскую думку падмянілі стэрэатыпамі, быццам тэлебачанне павінна адлюстроўваць не столькі тое, што людзі думаюць, колькі тое, што павінны думаць. Невыпадкова з экрана выціснуты дыскусіі, зніклі любыя формы палемікі, узмацніліся ідэалагічныя нападкі на апазіцыю. А такі паказ жыцця і яе рэальных падзей, безумоўна, не ўлічвае ўсёй палітры поглядаў і настрояў, што існуюць у краіне.

Аднак менавіта за праўду пра сябе, пра настрой людзей у краіне цывілізаваная дзяр-

жава плоціць тэлебачанню. Менавіта за праўду аб стане грамадскай думкі пераразмяркоўвае яна на карысць хатняму экрану частку сродкаў, што ідуць з нашай кішэні. І перш за ўсё таму, што разумее: дзяржаўны тэлеканал не можа не несці ў сабе кампанент апазіцыйнасці, крытычнасці да ўлады, бо без іх яна сама, гэтая ўлада, проста згіне. Калі ж вышэйшыя структуры дзяржавы не ўсведамляюць, што ад тэлебачання залежыць здароўе грамадства, дык страшна падумаць, што нас чакае.

Сёння на Беларускім тэлебачанні патрэба ў масавай вытворчасці прафесіяналаў узрасла ў шмат разоў. Яна непазбежна прывяла да зніжэння патрабаванняў, і перш за ўсё асабістага парадку. А між тым такія якасці аўтара ці вядучага, як сумленне і аб'ектыўнасць, доказнасць і аргументаванасць, набываюць усё большую ролю ў творчым працэсе. Саму ж тэлежурналістыку яны вылучаюць у разрад дзейсных рухавікоў перабудовы грамадства, змянення сацыяльнай псіхалогіі мыслення чалавека. Ці, можа, ў гэты драматычны час журналіст карыстацца традыцыйным тэхналагічным ці кіраўніцкім падыходам да рэчаіснасці? Зразумела, не. Яго месца — побач з аўдыторыяй, а яшчэ лепей — унутры яе, каб пашыраць ролю хатняга экрана ў грамадстве. Таму застаецца спадзявацца, што прага перабудовы на нашым тэлебачанні яшчэ не прайшла. Таму і час стабілізацыі тут яшчэ далёка не наступіў. Значыцца, тутэйшае тэлебачанне пакуль не можа стаць вонкавым адлюстраваннем нашай мары: трываласці, надзейнасці, стабільнасці. Як і наша грамадства, люстэркам якога хоча быць тэлебачанне.



Мастак А.ГУРСКІ





**Віншуем!**

# МІЖНАРОДНАЯ ПРЭМІЯ БАЖ

**Пераможцамі у наступных намінацыях прызнаныя:**

| | |
|---|---|
| *"За лепшы інфармацыйны матэрыял"* | Вячаслаў Будкевіч, спецыяльны карэспандэнт інфармкампаніі БелаПАН |
| *"За журналісцкае расследаванне"* | Аляксандр Тамковіч, намеснік галоўнага рэдактара газеты "Свободные новости плюс" |
| *"За лепшы аналітычны матэрыял"* | Анатоль Майсеня, журналіст-палітолаг |
| *"За палітычную сатыру"* | Мікалай Халезін і Яўген Мартыновіч ("Тадж-Махал"), супрацоўнікі газеты "Имя" |
| *"За лепшы фатарэпартаж"* | Анатоль Кляшчук, фотакарэспандэнт газеты "Звязда" |
| *"За кінапубліцыстыку"* | Юрый Хашчавацкі, рэжысёр, аўтар фільма "Звычайны прэзідэнт" |
| *"За лепшы радыёматэрыял"* | Уладзімір Дзюба, былы галоўны рэдактар "Радыё-ІІ" |
| *"За лепшы тэлематэрыял"* | Святлана Баблеўская, супрацоўніца тэлекампаніі "ФІТ", праграма "Эканамікст" |
| *"За грамадзянскі ўчынак"* | Іосіф Сярэдзіч, галоўны рэдактар "Народнай волі" |
| *"За прынцыповасць у адстойванні дэмакратычных каштоўнасцяў"* | калектыў газеты "Барысаўскія навіны". |

## ДЫПЛОМ "Ганаровы Крумкач"

уручаўся "ў знак асаблівых заслуг перад уладамі, за высокія маральна-ідэйныя якасці, узлёт фантазіі і непаўторнае майстэрства"



***за кастрычнік 1996 г.***
*— Павел ЯКУБОВІЧ, галоўны рэдактар газеты "Советская Белоруссия"*

***за лістапад***
*— Аляксандр Мартыненка, супрацоўнік Белтэлерадыёкампаніі*

***за снежань***
*— Яўген Росцікаў, аглядальнік газеты "Рэспубліка"*

***за студзень 1997 г.***
*— Ігар Акшэўскі, рэдактар аддзела газеты "Белорусская нива"*

## ЗАМЯТАЛІН ПРЫЙШОЎ, КАБ СУР'ЁЗНА РАЗАБРАЦЦА З ДРУКАВАНЫМІ СРОДКАМІ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ



23 студзеня прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ N 88 аб вызваленні Уладзіміра Бельскага ад пасады старшыні Дзяржаўнага камітэту па друку ў сувязі з пераходам на іншую працу.

У той жа дзень прэзідэнцкім указам N 89 Уладзімір Замяталін быў прызначаны старшынёй Дзяржкамдруку і ўключаны ў склад Савета Міністраў. Пры гэтым ён вызвалены ад пасады намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. Праўда, дзяржаўнае інфармагенцтва БелТА, накіраваўшы сродкам масавай інфармацыі тэкст указа N 89, пасля гэтага перадало ім таксама службовае паведамленне аб адтэрміноўцы публікацыі гэтага тэксту. Аднак "трывога" была прайграная заўчасна: прызначэнне адбылося.

Сам Уладзімір Замяталін у гутарцы з карэспандэнтам газеты "Свабода" так пракаментаваў перамяшчэнне яго з адной дзяржаўнай пасады на іншую: "В любой кадровой политике существуют вертикали и горизонтали распределения кадров, назначений и т.д. Если говорить о вертикали, то это прямой рост. Если говорить о горизонтали, речь идет о качестве подготовки кадров. Если существует только вертикаль и нет горизонтали, я думаю, что это не очень правильная кадровая политика".

Некаторыя лічаць, што гэта пра У.Замяталіна гаварыў Аляксандр Лукашэнка, шчыруючы з галоўным рэдактарам "Советской Белоруссии" Паўлам Якубовічам: "Иногда некоторые мои ретивые помощники искусственно нагнетали, прямо скажу, настраивали против меня газетчиков". У той жа час нельга не браць пад увагу і заяву, зробленую А.Лукашэнкам 11 лютага на пашыраным пасяджэнні Савету Міністраў: "В этом году мы укрепили Госкомитет по печати опытными, знающими свое дело кадрами. Я надеюсь, что в этой сфере наконец будет наведен порядок. Сегодня крайне необходимо серьезно разобраться с печатными средствами массовой информации..." Выглядае, што У.Замяталін — як раз той чалавек, які з задавальненнем выканае пастаўленую прэзідэнтам задачу.

*Антон АНДРОСАЎ.*

## ГЕРМЕНЧУКА ПАПЯРЭДЗІЛІ: "СВАБОДА" НЕБЯСПЕЧНАЯ ДЛЯ ЯГОНАГА ЗДАРОЎЯ



10 лютага быў абстраляны прыватны дом, размешчаны ў пасёлку Калодзішчы Мінскага раёна, які належыць Ігару Германчуку — галоўнаму рэдактару буйнейшай беларускай апазіцыйнай газеты "Свабода".

Як паведаміў сам І.Гермянчук, у той дзень каля 9 гадзін вечара ён, вярнуўшыся дахаты з Мінска, знайшоў разбітым вакно ў кухонным пакоі свайго дома. Выкліканая следчая група з Мінскага раённага аддзялення ўнутраных спраў знайшла дробнакаліберную кулю, — на думку спецыялістаў, фабрычнай вытворчасці. Дакладны час, калі быў зроблены выстрал, не вызначаны; у гэты момант у хаце нікога з членаў сям'і І.Германчука не было. Куля разбіла двайную шыбу і прайшла над сталом, за якім звычайна па вечарох працуе рэдактар "Свабоды". Следчая група склала пратакол і апісанне месца здарэння.

Ігар Гермянчук звязвае факт абстрэлу яго дома з журналісцкай дзейнасцю, якой ён займаецца. "Гэта спроба запалохвання мяне і маёй сям'і, — лічыць ён. — Спроба прымусіць адмовіцца ад той апазіцыйнай лініі, якую цяпер праводзіць газета "Свабода". Але такімі метадамі дамагчыся чагосьці ад мяне немагчыма. Мая рэакцыя на тое, што адбылося, будзе жорстка процілеглай".

Раней І.Гермянчук ужо падвяргаўся нападу невядомых, быў збіты імі. Яго дом у Калодзішчах двойчы абкрадвалі. Галоўны рэдактар "Свабоды" "ў пэўнай ступені" звязвае гэтае здарэнне з апублікаванай 10-11 лютага ў дзяржаўных газетах заявай прэс-службы прэзідэнта Беларусі. У ёй, у прыватнасці, гаварылася: "Мінская газета "Свабода", якая лічыць сябе апазіцыйнай, у чарговы раз апублікавала паклёпніцкую, нічым не абгрунтаваную, інфармацыю. Відавочна, спадар Гермянчук хацеў прынізіць прэзідэнта, але зноў прынізіў сябе. Жадаючы павялічыць цікавасць да свайго, добра-такі скампраметаванага сістэматычным друкаваным падманам, выдання, рэдактар "Свабоды" апублікаваў "сенсацыйны" матэрыял з характэрным загалоўкам "Шэрагі апазіцыі папаўняюць прадпрымальнікі". Пакінем на сумленні т.з. "Свабоды" сумніцельныя практыкаванні ў палітычнай арыфметыцы і ўкажам на вельмі нізкі фактычны ўзровень публікуемай халтуры... Паколькі ўся гэтая інфармацыя" высмактаная з пальца і мае на мэце ўзбударажыць грамадскую думку.., прэс-служба заяўляе рэдактару "Свабоды" Гермянчуку — не ганьбіце журналісцкую прафесію!"

На пытанне, ці прыме цяпер І.Гермянчук нейкія захады перасцярогі, ён адказаў: "Не. У нашай дзяржаве гэта бессэнсоўна. Забіць у існуючых умовах проста, тым больш што я жыву за горадам. А што да асцярожнасці, дык я праяўляю яе заўсёды".

*Алесь КНЯЗЮК.*

## РАДЫЁ 101,2: З ІМІ РОК




14 лютага ў Мінску на плошчы Якуба Коласа супрацоўнікі закрытай летась радыёстанцыі "Радыё 101,2 FM" правялі двухгадзінны санкцыянаваны пікет. Каля 20 чалавек трымалі ў руках плакаты, выстраіўшыся ля помніка пісьменніку. У некаторых з пікетчыкаў былі завязаныя рты, адзін з іх стаяў у процівагазе, што, на думку ўдзельнікаў акцыі, павінна было сімвалізаваць адсутнасць свабоды слова у Беларусі. Акцыя праходзіла пад рок-музыку з уключанага на ўсю гучнасць магнітафона.

Радыёстанцыя, як вядома, была закрытая 1 верасня 1996 года быццам з-за таго, што яе перадатчык перашкаджае працы ўрадавай сувязі. Журналісты лічаць гэтую версію адгаворкай, паколькі кіраўніцтва радыё неаднаразова звярталася да ўладаў з прапановай перанесці антэну пад Мінск, у Калодзішчы; тым больш што неабходны перадатчык ужо выраблены. Аднак улады так і не далі дазволу на аднаўленне працы "Радыё 101,2". Разгадку прычынаў такіх дзеянняў у дачыненні да незалежнага радыё дае змест дакладной запіскі "Аб захадах на стварэнні ў Рэспубліцы Беларусь уплывовай маладзёжнай арганізацыі", падпісанай памочнікам прэзідэнта Сяргеем Посахавым, былым намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Уладзімірам Замяталіным і віцэ-прэм'ерам Уладзімірам Русакевічам. Асобным пунктам у гэтым дакуменце пазначаны намер перадаць радыёчастату 101,2 FM для стварэння маладзёжнай станцыі пад патранажам прапрэзідэнцкай арганізацыі "Прамое дзеянне".

На сённяшні дзень 15 штатных супрацоўнікаў "Радыё 101,2" (зрэшты, як і 40 нештатных) з'яўляюцца беспрацоўнымі. Са слоў аднаго з іх, зараз рэдакцыя радыё працуе як інфармацыйнае агенцтва, супрацоўнічаючы з вядомымі сусветнымі радыёстанцыямі — "Бі-Бі-Сі", "Нямецкая хваля", "Радыё "Юнацтва" і іншымі.

*Генадзь БАРБАРЫЧ.*

## "СЛЁЗНАЯ ПЯТНІЦА"



Падчас шэсця, праведзенага 14 лютага ў Мінску маладзёжнай фракцыяй БНФ, якое суправаджалася сутычкамі дэманстрантаў з праваахоўнымі органамі, пацярпела і некалькі журналістаў. У прыватнасці, сярод пацярпелых ад прымененага міліцыяй слёзатачывага газу — карэспандэнт РІА "Новости" ў Беларусі Алеся Лучанінава і фотакарэспандэнт штотыднёвіка "Свободные новости плюс" Генадзь Лахтанаў.

Ужо пасля завяршэння акцыі на рагу праспекта Скарыны і вуліцы Варвашэні АМАП затрымаў карэспандэнта "Белорусской газеты" Віктара Дзятліковіча. Міліцыя даставіла яго ў апорны пункт, што на вуліцы К.Маркса, абшукала і праслухала дыктафонныя касеты з рабочымі запісамі. Частка запісаў была адмыслова сцёрта. Пратрымаўшы журналіста амаль тры гадзіны, супрацоўнікі праваахоўных органаў склалі на яго пратакол і адпусцілі пад падпіску аб абавязковай яўцы ў аддзяленне ўнутраных спраў 17 лютага.

## НЕЗВЫЧАЙНЫЯ ПРЫГОДЫ "ЗВЫЧАЙНАГА ПРЭЗІДЭНТА"

Па Карэліцкім кабельным тэлебачанні быў паказаны забаронены ў рэспубліцы фільм "Звычайны прэзідэнт".

Вечарам 22 студзеня, як звычайна, пачала трансляцыю сваіх праграм студыя кабельнага тэлебачання гарадскога пасёлка Карэлічы (Гродзенская вобласць), якая належыць старшыні мясцовага калгаса "Маяк" Станіславу Лычкоўскаму. Традыцыйна спачатку быў паказаны мультыплікацыйны фільм, потым, згодна з праграмай, — вядомы баявік "Рэмба-3". Аператар Міхаіл Свірыд, уключыўшы апаратуру, выйшаў са студыі, збіраючыся вярнуцца да заканчэння праграмы. Аднак у эфіры адбыліся непрадбачаныя змены: пасля баявіка раптам пачалася трансляцыя фільма вядомага рэжысёра Юрыя Хашчавацкага "Звычайны прэзідэнт" аб кіраўніку беларускай дзяржавы, негалосна забароненага для паказу ў нашай рэспубліцы. У гэтым фільме, у прыватнасці, цытуюцца вядомыя выказванні А.Лукашэнкі пра Гітлера на фоне фрагментаў канцлагера Асвенцым. Такім чынам, забаронены фільм змаглі ўбачыць каля 1000 абанентаў карэліцкага кабельнага тэлебачання.

Калі аператар вярнуўся ў студыю, ля будынка знаходзіліся ўжо прадстаўнікі раённай адміністрацыі і супрацоўнікі праваахоўных органаў. Дзверы ў студыю былі ўзламаныя, касета з фільмамі "Рэмба" і "Звычайны прэзідэнт" канфіскаваная. Аператара затрымалі і для допыту даставілі ў аддзяленне міліцыі. Высветлілася, што касету яму прадаставіў мясцовы жыхар Аляксандр Новік, кватэру якога адразу ж абшукалі; а той у сваю чаргу набыў касету на кірмашы, не ведаючы, што, акрамя "Рэмба", там запісаны яшчэ адзін фільм.

Раённае кіраўніцтва ў асобе намесніка старшыні райвыканкама Аляксандра Самца адмовілася каментаваць факт трансляцыі забароненага фільма, адзначыўшы толькі, што мае намер разабрацца, чаму па тэлебачанні круцяць касеты, купленыя на кірмашы.

*Генадзь БАРБАРЫЧ.*

## СПРАВА ПАЛІГРАФІІ ЖЫВЕ І КВІТНЕЕ

Выйшаў першы нумар інфармацыйна-аналітычнага часопіса "Полиграфис". Ён прызначаны для прафесіяналаў у паліграфіі і выдавецкай справе, камп'ютэрнай графіцы і анімацыі, рэкламе і дызайне, а таксама ў сумежных галінах — камп'ютэрнай, інфармацыйнай і тэлекамунікацыйнай. Заснавальнікі — Дзяржаўны камітэт па друку і выдавецкае прадпрыемства "Хелмон".

Да чытачоў новага беларускага выдання на адной з першых яго старонак звярнуўся старшыня рэдакцыйнага савета Аляксандр Прыліпка. Ён выказаў надзею, што з'яўленне "Полиграфиса" — не проста надзея, але і пачатак працэсу творчага яднання прафесіяналаў паліграфічнай і выдавецкай справы.

*Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.*







## "НЕЦІКАВАЕ" ГРТ БУДЗЕ ЗАМЕНЕНАЕ "ЦІКАВЫМ" БТ-2

Кіраўніцтва Беларусі вырашыла стварыць другі канал нацыянальнага тэлебачання — "БТ-2". Пра гэта 12 лютага на прэс-канферэнцыі заявіў новы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Іван Пашкевіч. З яго слоў, ідэя стварэння "БТ-2" падтрыманая кіраўніком дзяржавы значна раней, аднак яе рэалізацыі "перашкодзілі падзеі восені 1996 года". Пашкевіч таксама заявіў, што, ствараючы новы тэлеканал, дзяржава "будзе зыходзіць выключна з наяўнага эканамічнага патэнцыялу, не прымешваючы палітыку".



Чакаецца, што "БТ-2" будзе стварацца на тэлевізійных сетках, якія эксплуатуюцца зараз Грамадскім расійскім тэлебачаннем, і паступова выцесніць яго з Беларусі. Гэты працэс, мяркуючы па словах І.Пашкевіча, будзе даволі працяглым і на першым часе з кіраўніцтвам ГРТ плануецца заключыць дагавор, у адпаведнасці з якім на тэрыторыю рэспублікі будуць рэтрансліравацца "найбольш значныя" яго перадачы.

Грамадскаму расійскаму тэлебачанню так "пашэнціла" невыпадкова. Справа, паводле тлумачэння Пашкевіча, у тым, што ГРТ не аплочвае Беларусі эксплуатацыю яе тэлевізійных сетак (з расійскіх тэлеканалаў за гэта плоціць толькі НТВ). Акрамя таго, што таксама адыграла сваю ролю, ГРТ не з'яўляецца цалкам дзяржаўным. Нарэшце, з усіх дзяржаў Садружнасці толькі Беларусь транслюе перадачы ГРТ на сваю тэрыторыю ў поўным аб'ёме. Нават у самой Расіі частка эфірнага часу гэтай телекампаніі перакрываецца вяшчаннем мясцовых тэлеканалаў. Плануецца, што пераходны перыяд — чытайце: перыяд станаўлення "БТ-2", — калі найбольш цікавыя перадачы ГРТ усё ж будуць рэтрансліравацца на тэрыторыю Беларусі, складзе прыкладна два гады.

*Вячаслаў БУДКЕВІЧ.*

## ...ЯК ЖУРНАЛІСТ ЖУРНАЛІСТАМ

Вечарам 13 лютага ў Культурна-інфармацыйным цэнтры Ізраіля ў Мінску прайшло пасяджэнне журналісцкага клуба. Удзел у вечарыне ўзяў Паверана ў справах Дзяржавы Ізраіль у Беларусі спадар Зееў-Бенар'е.

Супрацоўнікі ізраільскага цэнтра пазнаёмілі журналістаў з новым выданнем, што выйшла ў Мінску, — газетай "Мезуза", заснавальнікам якой з'яўляецца мінская яўрэйская абшчына "Сімха". Галоўны рэдактар газеты — старшыня абшчыны Якаў Басін. Новае выданне плануе знаёміць чытачоў з асновамі і гісторыяй іўдаізму, біблейскіх герояў, вялікіх равінаў, а таксама публікаваць матэрыялы культуралагічнага плану.

На вечары кіраўнік ізраільскага пасольства спадар Бенар'е расказаў прысутным аб сваёй дзейнасці ў якасці радыёжурналіста. Нагадаем, што цяперашні Паверана ў справах Ізраіля доўгі час працаваў на ізраільскім радыё ў рускамоўнай рэдакцыі. Арганізатары вечара наладзілі імправізаванае ток-шоу, падчас якога дыпламат адказаў, на самыя нечаканыя пытанні журналістаў.

*Андрэй СЕРАДА.*

## СТАРЫКЕВІЧА "ЗАМІНІРАВАЛІ"

10 лютага ў маскоўскім міжнародным аэрапорце "Шереметьево-2" быў затрыманы беларускі журналіст Аляксандр Старыкевіч. Пры даглядзе яго багажу супрацоўнікі мытні знайшлі частку выбуховай прылады, а менавіта хваставую частку міны. Каб высветліць, ці ўяўляе гэты груз пагрозу для акружаючых, А.Старыкевіч і быў зняты з рэйса на Прагу. У лінейным аддзеле міліцыі высветлілася, што згаданая частка міны перароблена ў сувенір-попельніцу і небяспекі не нясе. Міліцыя не стала складваць пратакол і не афармляла затрыманне. Аляксандр Старыкевіч вылецеў у Прагу на наступны дзень, 11 лютага.

Ён сцвярджае, што да знойдзенага ў ягонай сумцы прадмета не мае ніякага дачынення. "Мой багаж увесь дзень знаходзіўся ў рэдакцыі "Известий", і доступ да яго быў свабодны", — гаворыць Аляксандр. Ён не выключае, што апісанае здарэнне ў "Шереметьево" — чарговая правакацыя супраць апазіцыйных палітыкаў і журналістаў Беларусі.

*Алег САКАЛОЎ.*



# ЗОНА ЖУРБЫ



Лаўрэат Міжнароднай прэміі БАЖ у намінацыі "За лепшы фотарэпартаж" Анатоль КЛЯШЧУК — фотажурналіст, спец.карэспандэнт газеты "Звязда".

У 1996 годзе А.Клешчуком быў падрыхтаваны і выдадзены альбом фатаграфіяў "Зона Журбы", прысвечаны 10-годдзю Чарнобыльскай катастрофы. Пераважна большае месца ў гэтым альбоме займаюць здымкі хворых дзяцей, якія сведчаць пра жахлівыя наступствы для Беларусі вынікаў атамнай катастрофы. Гэтыя здымкі друкаваліся на старонках газеты "Звязда" пад рубрыкай "Фатографы супраць Чарнобыля", у іншых выданнях. Адзін з такіх фотарэпартажаў убачыў свет пад назвай "Развітанне з Надзеяй" ("Звязда", 20.08.96)

















# IFJ SAYS AT LEAST 50 JOURNALISTS AND MEDIA STAFF KILLED IN 1996

The International Federation of Journalists (IFJ), released its annual list of journalists killed, and challenged media employers and governments to do more to protect and support journalists at risk. The IFJ report focuses on cases of journalists killed because of their investigative reporting.

"The killing of Veronica Guerin in Ireland, shot to death on a Dublin street corner, shocked many people who are complacent about the risks involved in investigative journalism," said Aidan White, General Secretary of the IFJ, "but Ms Guerin's death is not isolated. This sort of assassination takes place alarmingly often."

The IFJ report includes murders not previously circulated on the International Freedom of Expression Exchange (IFEX) service, such as the shooting of Khaled Aboulkacem, a researcher for the French-language independent newspaper "L'Independant", on 13 January in Algiers. The IFJ list also includes the previously unrecorded murders of eight journalists and one media worker in Russia — six of which are under investigation. In addition, IFJ reports that, on 5 December, Fernando Balderas, a journalist with "Cuarto Poder", his wife Yolanda Figueroa, and their three sons were found dead in their home in El Pedregal de San Angel, Mexico. IFJ says that statements from the Federal District Prosecutor indicate "the attack is believed to be a revenge attack or some other settling of scores."

Killings "are only the tip of the iceberg of violence against media," says the IFJ, noting that "journalists are routinely beaten up, harassed or intimidated. There is a constant danger of serious assault for any reporter who insists on confronting censorship, corruption and media manipulation." The IFJ maintains that media publishers and owners are not doing enough to protect their staff. "Publishers like the glamour and circulation-building strength of investigative journalism, but are not always willing to assume the responsibility for the safety of their journalists," said Aidan White. "The IFJ is calling for an international code of practice among media professionals to ensure that life insurance, medical assistance, risk-awareness training and social protection are provided for journalists," says the IFJ. "Freedom of expression can only be guaranteed by concrete and practical actions to support journalists. It is not enough to honour our martyrs with annual prizes," concludes the IFJ. "Many publishers do a good job, but others abdicate their responsibilities."

The IFJ also condemned governments who fail to investigate these murders. "Half-hearted actions by political powers only encourages the killers," says the IFJ.






## ЗМЕСТ



| "Чацвёртая ўлада" | The Fourth Estate |
| --- | --- |
| Бюлетэнь Беларускай асацыяцыі журналістаў | Bulletin of the Belarusian Association of Journalists. |
| Выдаецца пры фінансавай падтрымцы Фонда Еўразія | Published with the financial support from the foundation Eurasia. |
| Наклад - 499 экз. | Circulation - 499 copies. |
| Рэдакцыйная калегія | Editorial Board |
| Кантактны тэлефон: 232-55-01 | Contact telephone: 232-55-01 |

Отпечатано в ПК ООО "Полибиг" Зак. 49. Тир. 499